# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 1(514) ГОД XI 2 СТУДЗЕНЯ 1966 г. ЦАНА 60 ГР.


Непадз'ездаўская ТРЫБУНА

## Кадры - асноўная справа

З'яўляюся адным з найстарэйшых штатных працаўнікоў таварыства. На працягу дзесяці мінулых год яго дзейнасці даволі добра пазнаў працу «цэнтра» (Галоўнага праўлення) і так зв. «тэрэну». Праводзілі мы ўжо некалькі перадз'ездаўскіх дыскусій, у якіх падсумоўвалі нашы дасягненні і недахопы.

Запісалі мы многа старонак у «Ніве» на тэму паляпшэння працы таварыства. Найбольш аднак увагі прысвячалася працы нашых нізавых арганізацый. — гурткоў БГКТ. Як ажывіць дзейнасць гурткоў таварыства? Гэтае пытанне заўсёды нас хвалявала і хвалюе. Нягледзячы на ўсе нашы намаганні праца большасці гурткоў БГКТ застаецца толькі на паперы. Чаму? Па-першае, таму, што не праводзім з гурткамі сістэматычнай працы. Гурткоў у паасобных аддзелах таварыства даволі многа, і адзін штатны інструктар ГП не ў сілах іх рэгулярна абслугоўваць, а нешматлікі актыў аддзела гэтую працу праводзіць неахвотна. Да таго яшчэ і інструктары мяняюцца вельмі часта. Для прыкладу, у Бельскім аддзеле БГКТ праз мінулае дзесяцігоддзе правінулася аж дзесяць інструктараў! Не паспее свежы працаўнік бліжэй пазнаёміцца з працай, як ужо ўступае месца новаму. Прычына такой кадравай цякучасці — у першую чаргу: малая зарплата. Свежы працаўнік не паспявае выпрацаваць сабе аўтарытэту ў паветовых улад і праўленнях мясцовых арганізацый, не прыходзіць да іх з канкрэтнымі прапановамі супрацоўніцтва і таму зазвычай гэтае супрацоўніцтва не існуе. І ў такіх выпадках часта спатыкаемся са сцвярджэннямі, што існуюць цяжкасці, што няма адпаведнай атмасферы, ці проста — не хочуць з намі супрацоўнічаць.

Другой прычынай слабой працы нашых гурткоў з'яўляецца непадрыхтаванасць іх да такой працы, якой ад іх спадзяемся. Мы ад гурткоў патрабуем замнога. Хочам, каб яны былі вытворчымі, давалі нейкую культурную прадукцыю, калі яны пераважна маюць толькі «спажывецкі» характар. Гурткі цярпліва чакаюць на тое, з чым мы да іх прыдзем з павета, а ў першую чаргу з «цэнтра» — Галоўнага праўлення. На жаль, мы не вельмі маем з чым да іх прыходзіць. Вось і над гэтым трэба прызадумацца. Ганарымся нашай эстрадай «Лявоніха», якая з поспехам канцэртуе ў вёсках. На жаль, няма ў «Лявонісе» нейкай стабілізацыі. Пастаянныя асабовыя змены не спрыяюць яе росту. Спалучэнне канцэртаў эстрады з кароткімі змястоўнымі дакладамі аб дзейнасці таварыства — гэта важная справа. На жаль, у практыцы такое спалучэнне рэдка мае месца. Існуе пры ГП лектарская група. Плануецца правядзен-

(Працяг на стар. 2)



Роднае. Фота Ул. Паўлючук

## НАВАГОДНІЯ РАЗМОВЫ

**ПЫТАННЕ:**

**— Што дагэтуль зроблена, каб ліквідаваць цераспалосіцу і трохпольную сістэму?**

**АДКАЗВАЕ:**

1. Інж. **Славамір Давідзюк** — дырэктар Ваяводскага бюро геадэзіі і сельскагаспадарчых абсталяванняў.

— Так, цераспалосіца шмат надакучыла ўжо сялянам, асабліва ў Сакольскім, Беластоцкім, Гайнаўскім, Бельскім і Сямяціцкім паветах. Там яе найбольш. Аднак у маштабе цэлага ваяводства вялікай бяды няма. У палосках знаходзіцца не больш 15% усіх зямельных угоддзяў. (Ад рэдакцыі: у многіх раёнах, дзе пражывае беларускае насельніцтва, цераспалосіца стварае звыш 50% зямельных угоддзяў).

Па ініцыятыве дзяржаўных устаноў праводзіцца хутарызацыю вёсак толькі і выключна ў тых выпадках, дзе гэта неабходна дзеля стварэння адпаведных умоў для працы вялікіх дзяржаўных і спулдзельчых гаспадарак, або там, дзе інакш немагчыма загаспадараваць вялікай плошчы дзяржаўнай зямлі. Там мы ствараем ПГР-ы, або, калі зямля ліхая, аддаем пад дзяржаўны лес.

2. **Аляксандр Наумюк** — аграном ГРН у Рыбалах.

— Пералічыць усяго, што мы рабілі дзеля ліквідацыі цераспалосіцы і трохпольнай сістэмы не здолею, ды не ведаю, ці захацелі б вы ўсё запісваць. Мы — гэта значыць: партыйная арганізацыя ў нашай вёсцы, Грамадская рада і актыў вёскі. Некалькі разоў ездзілі ў міністэрства і КЦ партыі, запрашаем да сябе на сустрэчы прадстаўнікоў розных партыйных і дзяржаўных устаноў, паслоў у сейм і г.д.

**ПЫТАННЕ:**

**— Што будзе зроблена ў 1966 годзе дзеля ліквідацыі цераспалосіцы і трохпольнай сістэмы?**

**АДКАЗВАЕ:**

1. Інж. **Славамір Давідзюк** — дырэктар Ваяводскага бюро геадэзіі.

— Рыхтуем зямлю дзяржаўнага фонду для ПГР — у наваколлі Парцава ў Бельскім павеце, а ў вёсках Мокрае і Кнарыды гэтага ж павета рыхтуем абмен грунту, каб выдзяліць абшырную плошчу дзяржаўнай зямлі для спулдзельні прадукцыйнай у Дабрамілю. Усім гэтага роду працам спадарожнічае камасацыя сялянскіх палосак. Інакш немагчыма. Ніякіх іншых работ адносна ліквідацыі цераспалосіцы не прадбачваем.

Не, гэта не абазначае, што гаспадарам векаваць на цераспалосіцы. Ёсць выхад — так званая грамадская камасацыя, якая амаль цалкам выключае нязгоду і скаргі, якімі дагэтуль сяляне «бамбілі» ўсе дзяржаўныя і партыйныя ўстановы.

2. **Уладзімір Жамойда** — солтыс вёскі Паўночны Востраў.

— Вясною будзе праводзіцца ў нашай вёсцы камасацыя грунтаў і арганізуецца ПГР.

3. **Кастусь Пятэльскі** — селянін з вёскі Крушыняны.

— Кажуць усе, што ў 1966 годзе будзе ў нас праведзена камасацыя грунтаў, а апушчаныя гаспадаркі пойдуць у ПГР.

4. **Аляксандр Наумюк** — аграном ГРН у Рыбалах.

— У 1966 годзе астаткова правядуць у нас камасацыю, а з дзяржаўнай зямлі створаць цэнтр сельскагаспадарчай культуры. Так гавораць у павеце.

**ПЫТАННЕ:**

**— У чым вы бачыце прычыны цяжкасцей у атрыманні грашовай пазыкі.**

(Працяг на стар 2)

**УСІМ НАШЫМ ЧЫТАЧАМ І СІМПАТЫКАМ ШЛЕМ САРДЭЧНЫЯ НАВАГОДНІЯ ПАЖАДАННІ.**

**«Ніва»**



 

# Навагоднія размовы

(Працяг са стар. 1)

**АДКАЗВАЕ:**

**Кіраўніцтва** сельскагаспадарчага банка (адказ супольны і неафіцыйны).

— Крэдыты прызначаныя на пазыкі гаспадарам Беласточчыны амаль удвая меншыя ад патрэбных. Прызначаныя летась сто восемдзесят мільёнаў злотых пазыкі на закупку будаўнічых матэрыялаў былі выкарыстаны ўжо ў месяцы маі.

2. **Кастусь Пятэльскі** — селянін з Крушынян.

— Здаецца, што цяжкасцей няма. Зрэшты, не ведаю, у нас няма запатрабавання на большыя пазыкі, ніхто ў вёсцы не будуецца.

— Чаму?

— Няма патрэбы, калі ў като, скажам, згарыць хата, ён перабіраецца да другой, пустой, а пустых хат у Крушынянах многа.

**ПЫТАННЕ:**

**— У чым бачыце прычыны цяжкасцей куплі будаўнічых матэрыялаў, напрыклад: цэменту, вапны, чарапіцы, шкла?**

**АДКАЗВАЕ:**

1. **Уладзіслаў Вуйт,** кіраўнік аддзела гандлю Ваяводскай рады нарадовай.

— Прычыны ёсць дзве: па-першае, некаторых матэрыялаў усё яшчэ мала, як, напрыклад, этэрніту; па-другое, людзі не робяць запасу (вапны, цэменту). Купляюць тады, калі ім трэба ўжо — як рыбы на каляды. А тым часам матэрыялаў гэтых зараз поўныя склады, а за некалькі месяцаў не будзе.

2. **Уладзімір Жамойда** — солтыс з Паўночнага Вострава.

— Замалыя прыдзелы цвікоў, цэглы, чарапіцы. Трэба старацца праз ГРН, пісаць заявы і г.д. Вось з цэментам цяпер добра: ёсць удоваль.

Жонка солтыса: — Ты кажаш удоваль, а восль пабачым пад весну, зноў са свечкаю не знойдзеш.

Солтыс: — А, пад весну! Ды чорт жа яго ўсім надасца пад весну.

**ПЫТАННЕ:**

**— Якія недахопы бачыце вы пры скупцы сельскагаспадарчых прадуктаў і як іх перамагчы?**

**АДКАЗВАЕ:**

1. **Францішак Шустэр** — кіраўнік аддзела скупкі прэзідыума ВРН.

— Асноўнымі недахопамі ў мінулым годзе былі:

недастатковая колькасць і ўмяшчальнасць складаў;

пэўныя праявы несумленнасці ў працаўнікоў скупкі і загадчыкаў складаў.

Адносна першага недахопу: у наступаючым годзе пачнецца будова некалькіх складаў на сельскагаспадарчыя прадукты.

Адносна другога недахопу: уводзім новы метад класіфікацыі купаванай жывёліны. Пры гэтым метадзе класіфікатар не мае ніякага дачынення з уласнікам жывёлы. Уласнік заводзіць яе ў акрэсленае месца, пасля чаго прыходзіць класіфікатар і ацэньвае жывёлу, не ведаючы, чыя яна. Там, дзе гэты метад прымянялі, скаргі зменшыліся да мінімум.

2. **Уладзімір Жамойда** — солтыс з Паўночнага Вострава.

— На нашым пункце скупу ў Шудзялаве ніякіх недахопаў няма. І «ваговы» і класіфікатар і ўсе іншыя добрыя.

**ПЫТАННЕ:**

**— Што зроблена ў 1965 годзе, каб ліквідаваць аблогі і гаспадаркі занядбаныя?**

**АДКАЗВАЕ:**

1. Інж. **Качмарскі** — намеснік загадчыка сельскагаспадарчага аддзела ВРН.

— Шчыра кажучы, мог бы я дакладна адказаць на вашыя пытанні пад канец сакавіка 1966 года. Цяпер у нас праводзіцца праверка стану гаспадарак эканамічна занядбаных, і пакуль яна не закончыцца, нічога канкрэтнага сказаць не магу. Ведаем толькі, што пачынаючы ад 1963 года 3100 гектараў сялянскай зямлі здабыло поўную прадукцыйную спраўнасць. Перад тым займалі яе гаспадаркі, якіх мы называем эканамічнымі трупамі.

2. **Аляксандр Макаль** — прэзас сельскагаспадарчага гуртка у Крушынянах.

— А што мы маем зрабіць, ну што! Вось вы разумныя, скажыце. Тут сам пээт нічога не параіць.

Зямлі ў нас не купляць не трэба, бяры зараз хаця 100 гектараў, ды засявай, толькі вось сілы ў нас, старых, няма, а моладзь паўцякала ў горад. А трактара нам не даюць, кажуць, што не патрэбны, бо ў нас церасполосіца. І што будзеш рабіць.

**ПЫТАННЕ:**

**— Якія пачынанні прадбачваюцца ў 1966 годзе дзеля ліквідацыі аблогаў і гаспадарак занядбаных?**

1) Інж. **Качмарскі** — Нічога новага не прадбачваецца.

2. **Аляксандр Макаль** — Калі не эробіць ПГР-у, нічога новага не прадбачваецца.

Размаўлялі

**Уладзімір Паўлючук**
**Віктар Рудчык**
**Сакрат Яновіч.**

# Беларускі календар

Ужо выйшаў з друку беларускі календар на 1966 год. У сувязі з тым, што Беларускае грамадска - культурнае таварыства ў Польшчы ў 1966 годзе адзначае 10-ую гадавіну свайго існавання, таму матэрыялы календара ў асноўным прысвечаны гэтаму юбілею. Важнейшыя падзеі ў кожным годзе дзейнасці Галоўнага праўлення, праца кожнага аддзела, а таксама беларускае школьніцтва выдзелены ў асобныя раздзелы. Амаль усе публікацыі ілюстраваны здымкамі, якіх у календары налічваецца 220. Фотаздымкамі паказаны з'езды БГКТ, пленумы, нарады, вечарыны, фэстыны, выстаўкі, аматарскія мастацкія калектывы, актыў нашага таварыства, настаўнікі і г.д.

Значная частка календара адведзена выбранай 10-цігадовай журналісцкай творчасці рэдактараў «Нівы». Гэтыя публікацыі паказваюць грамадскі аванс беларускага насельніцтва, рэвалюцыйныя традыцыі, быт і хвалюючыя праблемы нашага жыцця. Перад публікацыямі змешчаны здымкі журналістаў.

Змешчаны ў календары цікавейшыя публікацыі ў польскім друку і ў друку БССР аб працы нашага таварыства, аб яго органе «Ніве», аб беларускім школьніцтве. Асаблівую цікавасць прыяўляюць два артыкулы Ежы Равіча — вядомага польскага публіцыста, які апублікаваў у органе ЦК ПАРП «Трыбуне Люду» (верасень 1955 год) аб жыцці беларусаў і аб патрэбе існавання беларускай арганізацыі.

Вялікую карысць прынясуць сялянам праўныя парады нашага юрыста Вінцука Склубоўскага, які піша аб усіх навейшых законах звязаных з сельскай гаспадаркай, з падзелам яе, спадчыне і т.д.

У календары некалькі старонак займаюць песні і гумар. Каляндар налічвае 320 старонак. Каштуе 7 зл., а з перасылкаю 8,80 зл. Купіць яго можна ў Галоўным праўленні БГКТ (Беласток, вул. Варшаўская 11) і ва ўсіх аддзелах БГКТ.

(мх)

# Кадры - асноўная справа

(Працяг са стар. 1)

**не ў вясковым асяроддзі грамадскім чынам дакладаў на розныя тэмы. Людзі ў тэрэне чакаюць на лектара, лектар падводзіць і ў апошнюю хвіліну «ратуюць сітуацыю» штатныя працаўнікі таварыства, часта не падрыхтаваныя да выступлення. Таварыства мае фільмовую апаратуру. Дэманструюцца час ад часу кінафільмы ў вясковым асяроддзі. Аднак няма большага сэнсу, як гэта часта робіцца, дэманстраваць фільмаў без сэнсоўнага ўступнага слова. У такім выпадку мы выручаем толькі аб'язное кіно, не спаўняючы ролі, да якой паклікаіны. Тое ж самае можна сказаць аб дэманстрацыі кінафільмаў у зале ГП БГКТ. Даваць толькі «голы» фільм, дык гэта дасканала робяць беластоцкія кінатэатры.**

**Тут яшчэ некалькі слоў адносна выкарыстання залы ГП. Пасля перабудовы будынку ГП маем вялікую залу са сцэнай. Адбываюцца тут рэпетыцыі «Лявоніхі» час ад часу дэманструюцца кінафільмы, праводзяцца акадэміі ў гадавіны дзяржаўных свят, танцавальныя вечарыны і ўжо вельмі рэдка канцэрты. Няма планавага, сістэматычнага выкарыстання залы. Па-за «Лявоніхай» няма пры ГП іншага калектыву, які б час ад часу мог падрыхтаваць культурны вечар. Рассыпаўся калектыў песні і танца, не існуе драматычны, музычны ці дэкламатарскі гурток. Былі пачынены спробы запрашання на сцэну ГП вясковых мастацкіх калектываў, але, на жаль, гэта не праводзіцца. За ўсю культурна - асветную працу ў гмаху ГП адказны інструктар гарадскога аддзела. І тут інструктары мяняюцца вельмі часта, не заўсёды маюць адпаведную прафесіянальную падрыхтоўку і на гэтым, зразумела, церпіць праца. Не ратуе сітуацыі тэлевізар у святліцы ГП. У вялікім горадзе перастаў ужо ён быць атракцыяй. Тэлевізары маюць людзі ва ўласных кватэрах. Таму моладзь як і старэйшыя, не знаходзячы ў гмаху ГП сабе нічога цікавага, перастаюць сюды заглядаць. Выхад з сітуацыі — заангажаваць адукаванага, падрыхтаванага да культурна - асветнай працы кіраўніка клуба, які будзе планаваць і праводзіць культурныя мерапрыемствы. Ці ж можа быць гутарка аб добрай культурна - асветнай працы, калі ў ГП ад даўжэйшага часу не абсаджаны штат кіраўніка асноўнага культурна - асветнага аддзела?**

**Заахвочваем наш пешматлікі актыў да грамадскай працы і сцвярджаем, што людзі неахвотна выконваюць працу грамадскім чынам. Чаму гэта так? Ці наш беларускі актыў горшы ад іншага? Хіба не. Пры шпаркім тэмпе жыцця сітуацыя выглядае падобна ва ўсёй нашай краіне. Людзі, асабліва ў горадзе, найчасцей не маюць часу на грамадскую працу, а калі ўжо выкраяць на яе час, гэта праца мусіць быць сканкрэтызаванай, звязанай з зацікаўленнямі асобы. Наша народная дзяржава вялікія фінансавыя сродкі прызначае на развіццё асветы і культуры. Таксама і нашай беларускай культуры нельга пашыраць без грошай. Трэба толькі планава, умела выкарыстоўваць тыя фінансы, якія дзяржава нам прызначае.**

**Нам неабходна стварыць ядро, штаб людзей на адпаведным узроўні, якія б планавалі і кіравалі канкрэтнымі напрамкамі нашай дзейнасці, як: арганізацыйны, культурны, асветны, прапагандовы і выдавецкі. Пяць адпаведных асоб, якія б тэарэтычна распрацоўвалі напрамкі працы ў Галоўным праўленні і рэалізавалі сваю тэорыю ў практыцы — гэта надзвычай важная справа. Арганізацыя без адпаведных кадраў не мае большага значэння. Без кадравасці — няма масавасці. Калі і надалей не будзе ў нашым таварыстве адпаведных кадраў, калі не будзе каму планаваць і ўмела кіраваць працай, дык не можам разлічваць на здаровую, сапраўдную масавасць нашай арганізацыі на парозе другога дзесяцігоддзя яе дзейнасці.**

**ВІКТАР ШВЕД**

**У ТЭАТРЫ А. ВЯНГЕРКІ**



На здымку: сцэна з II часткі.

# „Дзяды"

Старынны язычаскі звычай, які захаваўся на Беларусі да часоў Адама Міцкевіча. «Дзяды» — звычай выклікання памерлых. Адам Міцкевіч гэты звычай зрабіў пунктам выходным для сваёй вялікай палітычнай паэмы п.з. «Дзяды».

Яе паставіў на сваёй сцэне Беластоцкі тэатр. Паэма выпрацавана добра, карыстаецца заслужанай папулярнасцю, якой удзячна генію Міцкевіча ў першую чаргу, але таксама добрай апрацоўцы і рэжысерыі Ежы Зэгальскага, сцэнографа Рышарда Кузышына.

(вл)



 


С. Раманчук.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.


В. Швед.

# НАВАГОДНІ СЕМІНАР ЛІТАБ'ЯДНАННЯ

Дзея адбываецца ў памяшканні ГП БГКТ пры вуліцы Варшаўскай 11 з 31 снежня 1965 г. на 1 студзеня 1966 г. Гадзіннік б'е на сцяне дзесятую. У зале на падмостках ужо стаіць напагатове хор — В. Баршчэўскі, М. Гайдук, Ул. Гайдук, Ю. Геніюш, Ул. Дваракоўскі, С. Заставін, Ю. Зубрыцкі, М. Лобач, Ул. Паўлючук, К. Пятэльскі, А. Сошка, Я. Хлябіч, Я. Цялушэцкі, Д. Шатыловіч. За хвіліну ён адспявае гімн Літаб'яднання, а потым будзе актыўна ўключацца ў дыскусію. Усе чакаюць старшыні, хаця некаторыя яшчэ заўзята лаюцца, абзываюцца, адзін другога тоўкае слабей і мацней, плююць на факты і выціраюць хто чым свае сумленні.

Уваходзіць Алесь Барскі.


С. Яновіч.

**Хор:** (спявае)
Мы паэтычная сіла народа,
Мы празаічная гвардыя яго,
Нам не патрэбны ніякія згоды,
Але ў гісторыю спяшаемся бягом.
Нас аб'яднала шыр «Белавежы»,
Пушча заве сваім нас нутром.
Проста ў нічым нам так не залежыць,
Як у гісторыю скокнуць бягом...

**А. Барскі:**
Хлопцы, ціха ўжо, сядайце.
Распачнем семінар чарговы.
Слова Буршу дайце,
Паслухаем ягонай мовы.

**Хор** (урачыста):
Судзі справядліва нас. Сёння і назаўсёды.

**А. Барскі** (да С. Раманчука):
Як ваша здароўе?

**С. Раманчук:**
«Не ведаю. Мне толькі вельмі прыкра».

**Я. Бурш** (голасам урачыстым, клічучы):
«Прыходзьце
мараў дні
з будучыні ;
выражаныя
творчай
людской працай
у чалавечых думках
разгасціцеся
старым
падзякуйце
за турботы»...

**Хор** (дэкламуе):
Антосю з Лепля, Міколе Буцыліну, Міколе Базылюку, Тодару Грушцы, Уладзіміру Дваракоўскаму і Кастусю Пятэльскаму.

**Я. Бурш:**
...«ускрыдляйце
маладым палёты».

**В. Рудчык:**
Маладыя — гэта «арлы без крылаў».

**Я. Бурш:**
«Ружамі
ўквечваю ўспаміны...»

**А. Барскі:**
«Калі прывыкнеш да выбуху мін,
Не лёгка прывыкнуць да ружаў».

**Я. Бурш:**
Э! Што там!
...«тку
з праменняў сонца
шлях падзей
зблытваю думкі
з жыцця галінамі...»

**Голас:**
«несвядомы бегаў...
па людскіх клопатах
таптаў... пульхнымі нагамі
дарогі святасці».

**Я. Бурш:**
Э! Што там!..
...«уплятаю
у пасмы часу
незабудкай
сэнс падзей».

**Хор** (спявае):
І півоніяй, настурцыяй і браткам,
Вяргіняй, цыніяй,
Рамонкам і мальваю.

**В. Швед:**
Яшы «байкі ўбаяліся ў голаў».

**Я. Бурш:**
«Не забывай пад вязам хаткі,
Дзе нарадзіўся і дзе рос».

**В. Швед:**
Я?..
«Я заўсёды знайду пуцявіну
На родны, бацькоўскі парог».

**Я. Бурш:**
Тады «калі ласка...
прашпацыруйся
па тарадах
маіх летуценняў
пахам пачуццяў паддыхай».

**С. Яновіч** (да Шведа):
«Рассохлы парог хаты бацькоў пакінуць — можаш. Туманны ўсход і пах ліпаў забыць, каб шумным асфальтам пакрочыць — можаш».

**А. Свісёк** (з трывогай):
«Шмат каго не стане з нас...»

**Хор** (спявае):
Зыходзіць сонца новае.
Новыя бачым дарогі.

**Я. Бурш** (да хору):
«На ўзмежку
спозненыя праменні».

**Хор:**
Народ хоча сэнсоўнага слова!

**Я. Бурш:**
«Кветачным пылам
распыльваю пачуцці».
«Цалую аксаміт вяргінь
анямелы ад шчасця».

**С. Яновіч** (да Бурша):
«Думаеш, што ўвесь свет ля ног тваіх ляжа і ласкавай усмешкі папросіць? Дарэмна мучыш сябе снамі непраўдзівымі ды годы маладыя траціш».

**Я. Бурш** (С. Яновічу):
І на цябе «чакае... мая летуцень».

**Хор:**
Слова аб А. Барскім скажы.

**Я. Бурш:**
Яго «мары стапталіся
зусім
да нічога
ходзячы па з'явах
свету».


Я. Бурш.


А. Свісёк.

**А. Барскі:**
«Я стаў ужо такі вялікі,
Што нават сам сябе баюся,
Слыву па цэлай Беларусі..
Заву сябе у множным ліку,
Ды штосьць знаёмыя не трусяць».

**Хор:**
Аб В. Шведу хочам.

**Я. Бурш:**
«Масляны шлях
завёў яго на грань
слізкасці...»


В. Рудчык.

**В. Швед:**
«Праўдзе ў вочы не лёгка зірнуць
Асабліва тады, калі з ёй ідзе прыкрасць».

**Хор:**
Аб Я. Цялушэцкім гавары.

**Я. Бурш:**
«Як пялёсткі руж
твае вейкі
адсланілі бархат вачэй
агортваю чароўнасць
заглядаю
у харамы душы
асвятляю пачуццямі
цяжкасць няўдач
і позіркам
зарасаджваю спакой
(Я. Цялушэцкі адыходзіць у краіну дзяцінства).

**А. Барскі** (наўздагон яму):
«Яшчэ твой твар не крануў пухам».

**Хор:**
Аб С. Раманчуку

**Я. Бурш:**
І твае «няхай вочы глянуць
з кілішка мальваў
на вынік турбот».

**С. Раманчук:**
«Я многа раз думаў аб смерці.
Скідаю з сябе грэх, тлумачучся?» Хто знае...

**Хор:**
Аб С. Яновічу гавары.

**Я. Бурш:**
Аб Сакрату?
«Будзьма з табою
на ты
бліжэйшым зробіцца чалавек».

**С. Яновіч:**
«Я конь. Надакучыла быць чалавекам».

**Хор:**
Аб Ул. Дваракоўскім раскажы.

**Я. Бурш:**
«Пакінуў гаспадарку карміліцу..
А час
у свае нутро
угортвае
недацёртыя
тварэнні розуму...
часу актывісты
сартуюць
што ў вечнасці скарбніцу,
а што
мулам
на падсцілку».

**Хор:**
Так было, ёсць і будзе. Сёння і назаўсёды.

**Голас:**
Прэч з Буршам.

**Я. Бурш:**
Мне «няма куды ўцякаць...
на абарону
сваіх думак
я маю толькі сэрца».

**Хор:**
Усе мы знаем, дзе мы і хто мы,
Колькі хто варты і хоча чаго.
Мы малыя, як гэты атомы,
Але ў гісторыю — ура! і бягом.

**А. Барскі:**
Няпраўда!
«Я сёння вышаў з межаў свету,
Бо мне у ім было зацесна».
(прыслухоўваецца):
«За сцяною дзесь плача жанчына —
Значыць з ёй развіталася радасць» (выходзіць).

**В. Швед:**
Вось які небывалы размах
У галеўшай адвечна старонцы!»

**Я. Бурш** (зрэзыгнаваны):
«Доля зажартавала
з мае пералётнасці
на свеце».

**А. Свісёк** (хутка, усхвалявана, невыразна):
«Як я рад:
цудоўных думак — слоў
не знішчыць час».

**С. Яновіч:**
(Усё тут як «у шлюбнай пасцелі». Гадзіннік б'е Новы Год).

**С. Раманчук** (устае і патэтычна, амаль трагічна):
«Так ішлі хвіліны, гадзіны, беглі дні,
падлікам якіх ніхто... не займаўся».

**Хор:**
Не займаліся мы, хлопцы, не
Рэчаіснасцю, жыццём і фактам —
Мы зайчыка лавілі на сцяне,
Але ці лавіць яго варта?

**І. ЧЫКВІН**


А. Барскі.

Рэдактар: І Чыквін
Мастак: А. Хомчык.

№ 85

# ТАЯМНІЦЫ ШУМАЎСКІХ АЗЁРАЎ



Паблізу чэхаславацка-баварскай граніцы, сярод густых лясоў Шумавы, далёка ад людскіх паселішчаў дрэмлюць два возеры — Чортава і Чорнае. Летам 1964 года пражскае тэлебачанне разам з групай аматараў падводнага плавання вырашыла зняць фільм аб гэтых казачна-прыгожых мясцінах. Здымкі шлі згодна з планам і сцэнарыем, як раптам... 3 ліпеня ныральшчыкі паднялі з дна дзіўную металічную скрыню. Неўзабаве высветлілася, што ў ёй — нейкія гітлераўскія дакументы. Далейшыя пошукі вяло ўжо Міністэрства ўнутраных спраў. Было паднята на паверхню 4 металічныя воданепранікальныя скрыні, напоўненыя найсакрэтнейшымі нацысцкімі дакументамі, якія складалі частку архіва галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі. Дакументы, галоўным чынам, датычылі VI аддзела (шпіянаж і сабатаж) і IV аддзела (гестапа).

### З ДУМКАЙ АБ «БУДУЧЫНІ»

Як гэтыя дакументы апынуліся на дне шумаўскіх азёр? Яшчэ ў 1943 годзе міністр унутраных спраў рэйха Гімлер выдаў загад падрыхтаваць сакрэтныя архівы да захавання, каб у будучыні яны маглі паслужыць новым нацыстам. Галоўнымі раёнамі захоўвання дакументаў і каштоўнасцей былі выбраны так званыя «альпійская цвярдыня» і «шумаўская цвярдыня».

Цяпер гэтыя дакументы апынуліся ў руках Чэхаславацкай камісіі па расследванню гітлераўскіх злачынстваў. Тайнае стала яўным. На старонках чэхаславацкіх часопісаў публіцысты Марыя Коцыкава і Карал Беран публікуюць серыю артыкулаў пра таямніцы металічных скрынь... Некаторыя з апублікаваных дакументаў расказваюць аб зверствах фашыстаў на Беларусі і Беласточчыне.

### ...ЗАБІВАЕ КАВАЛЕРЫЯ СС

Вось «данясенне аб дзейнасці» кавалерыйскай брыгады СС з 18 жніўня па 4 кастрычніка 1941 г. Надпіс абвяшчае: «Заключнае паведамленне аб ачышчэнні раёна прыпяцкіх балот». І далей — жахлівыя лічбы:

«Расстраляна: марадзёраў 14 178(!!!), партызан 1 088, чырвоных атэістаў 699, узята ў палон 830».

«Паведамленні», «рапарты» — адно за другім: у раёне Мазыр — Прыпяць — Рэчыца расстраляна 384 партызаны, запіс з Бабруйска — расстрэл 192 партызан і 363 «грабежнікаў».

Паведамленне аб ачышчэнні раёна Старобіна: «Расстрэл усіх яўрэяў — мужчын у Старобіне.

Расстраляна 103 чыны Чырвонай Арміі.

Населены пункт Старобін спалены».

### АСНОЎНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ У РАЁНЕ МІНСКА

У ваенным архіве ва ўзорным парадку захаваліся паведамленні аб дзейнасці І-й роты «Батальёна вафен-СС асобага прызначэння» разам са спісам афіцэраў і унтэр-афіцэраў.

Пад камандай оберштурмфюрэра Радзенава рота дасягнула наступных «поспехаў».

За час ад 1 снежня 1941 г. па 27 лютага 1942 г.: разгром мінскага гета, каля 1000 яўрэяў забіта, гета амаль поўнасцю спалена. У тых будынках, што ўцалелі ад агню, пры прачосванні арыштавана 6 «камісараў» і 200 «партызан», 50 чалавек забіта пры спробе ўцячы, дамы спалены.

2-і ўзвод у канцы красавіка 1942 года быў заняты капаннем ям на 22-м кіламетры ад Мінска. Мерапрыемства называлася «Ачышчэнне турмы». Адразу ж за гэтым капаюцца новыя ямы. 11 мая прыбывае эшалон — 1 000 яўрэяў з Вены. «Адведзены да ямы проста з вакзала». Праз два дні — зноў рыхтуюцца ямы, на гэты раз «для яўрэяў з рэйха».

Яшчэ адно паведамленне ад канца мая 1942 г.: «З дапамогай трэцяга мерапрыемства ў населеным пункце Даўгінава было вырашана яўрэйскае пытанне».

14 студзеня 1943 г.: у населеным пункце Жарайлава расстраляна «значная колькасць жыхараў», пасёлак зраўнялі з зямлёй.

Такіх дакументаў сотні і тысячы. Лічбы, імёны. Спісы, карты, загады. Збор дакументаў, ад якіх нямее розум.

### 322-і ПАЛІЦЭЙСКІ БАТАЛЬЁН

У замку ў Засмуках захаваўся дзённік ваенных дзеянняў 322-а паліцэйскага батальёна, напісаны оберлейтэнантам Улем, дзённікі асобных рот, арыгіналы рапартаў і іншая карэспандэнцыя з усходняга фронту.

Вось перад намі кароткія і сухія запісы ў дзённіку 3-й роты, якая ахоўвала пераваланчы лагер. Паводле почырка відаць, што вёў дзённік сам камандзір роты обер-лейтэнант Рыбель.

—12. VII. Уначы прынята 11 000 зняволеных. Вахмістр Каметнер просіць узмацніць ахову. Колькасць зняволеных у лагеры — 25 000 чал. Забеспячэнне вадой выклікае цяжкасці. З прыемнасцю пасядзелі на свежым паветры перад казармай. Распіта дзве бочкі піва.

13. VII. Уначы застрэлена 19 яўрэяў пры спробе ўцячы...

14. VII. Уначы забіта 40 яўрэяў пры спробе ўцячы...»

І гэтак далей. За добрую службу атрымліваюць заахвочванне вахмістры Кірхгофер, Ноглер, Хайн і Фаленці.

«27. VII. Рота ад'язджае ў вёску Цераміскі з мэтай яе спалення. У вёсцы было 72 сялібы са 174 хлявамі і стайнямі. Акцыя пачата ў 15 гадзін. Надвор'е вельмі спрыяючае».

Былі спалены і іншыя вёскі: Броўск, Ціхаволя, Тушэмля.

З якім д'ябальскім спакоем летапісец 3-й роты рабіў свае запісы:

«5 жніўня. Арыштавана 28 мужчын і 1 жанчыну, якія былі расстраляны ў Белавежы. 6 жніўня — расстраляны наступныя 23 мужчыны і 2 жанчыны. 7 жніўня. Адпачынак. Чыстка веласіпедаў, зброі і амуніцыі. Лейтэнант паліцыі Вацэк захварэў запаленнем сляпой кішкі. 8 жніўня арыштавана 20 чалавек, у вёсцы Чадзель, якія былі прывезены ў Белавежу для ліквідацыі. Аднаму ўдалося ўцячы, астатнія 19 былі застрэлены. У наступны дзень пачата «эвакуацыя яўрэяў з Белавежы. Усе яўрэі мужчынскага полу ад 16 да 45 год былі сабраны ў лагеры, астатнія адвезены ў Кобрын. Назаўтра ў 7 гадзін — ліквідацыя яўрэяў у лагеры Белавежа. Расстраляна 77 яўрэяў ва ўзросце ад 16 да 45 год. 5 яўрэйскіх краўцоў, 4 шаўцы і 1 часаўшчык не былі расстраляны з той прычыны, што былі неабходны роце ў якасці рабочай сілы».

І так — дзень за днём, 16 жніўня — «паездка вузкакалейкай па белавежскай пушчы. Паездка адбывалася пры ясным надвор'і». Назаўтра — арышт «16 беларусаў, 2 палякаў» і расстрэл іх у лесе.

### 9-я РОТА III ПАЛКА

«26. VIII. У роту адкамандзіраван з Брунсвіка лейтэнант Бушэ.

28. VIII. Рота сабрала 223 маркі 20 пф. на канцэрт, наладжаны вермахтам, і па яе жаданню была выканана песня «Мая мужная жонка салдата» ў гонар любых на радзіме...

3. IX. У 4 гадзіны раніцы ад'езд на пашуковую акцыю супраць партызан у балотах прыкладна ў 60 км на поўдзень ад Мінска. У Аляксандраве было схоплена і расстраляна 7 салдат рускай арміі, якія, пераапрануўшыся ў цывільнае, хаваліся ў сялян. Перад расстрэлам аказалі супраціўленне. Адбылася сутычка. Супраціўленне было зломлена. Затым знойдзены 4 рускія вінтоўкі. Акцыя была вельмі цяжкая з-за лясістага характару мясцовасці і забалочанай глебы. Акцыя цягнулася многія гадзіны, і ўвесь гэты час салдаты ішлі па калена ў вадзе. У гэтыя дні ад іх патрабаваўся максімум намагання. Гэты дзень быў самы цяжкі за ўвесь час».

5 верасня салдатам роты рабілі прышчэпкі супраць халеры. 6 жніўня лейт. Вацэк святкаваў сваё 32-годдзе, і яму паднеслі дзве бутэлькі самагонкі. А 7 верасня рота накіроўваецца ў Магілёў.

Рота адразу ж атрымала заданне ўключыцца ў акцыю супроць партызан на захад ад чыгуначнай лініі Магілёў — Бабруйск. «У вёсцы Гарадзец, — чытаем зноў у дзённіку «баявых» дзеянняў, — 11. IX. 1941 года была дасягнута вызначаная мэта — схоплены жонка і дачка аднаго партызана і жонка аднаго камуніста. Гэтыя тры асобы жаночага полу былі перададзены ў батальён і пасля расстраляны». 15 верасня ў вёсцы Падзевічы расстраляна трое рускіх, затым яшчэ 15 «партызан» або «пастаўшчыкоў харчавання для партызан».

2 кастрычніка рота атрымала «ганаровае заданне» ад самога «оберфюрэра СС і паліцыі Расія — цэнтр» — правядзенне ў Магілёве «яўрэйскай акцыі».

У дзённіку аб гэтым запісана наступнае: «2 208 яўрэяў абодвух палоў былі схоплены і дастаўлены ў лагер грузавікамі».

10 снежня перад сваімі малойчыкамі выступае обергрупенфюрэр фон дэм Бах-Зелеўскі, упаўнаважаны Гітлера па барацьбе з партызанскім рухам. »Обергрупенфюрэр з прызнаннем гаварыў аб дасягнутых выніках» — занатавана ў дзённіку. А к Новаму году паспелі і ўзнагароды — лейтэнант Вацэк і вахмістры Пейнбаўэр, Тэйсен, Кругер, Гофман і Гебель (вось пералік прозвішчаў забойцаў) атрымліваюць крыж II ступені з мячамі. «Вечарам рота сабралася каля ўбранай ёлкі. Обервахмістр Сімон прачытаў калядны вершык, складзены ім самім...»

Толькі адна рота!.. Тысячы забойстваў, рэкі крыві гэта справа рук толькі невялікай кучкі катаў, рабаўнікоў, забойцаў.

---

**Мая дваюрадная сястра Люба ў даваенных лыжных шараварах з начосам варыць у вядры бурду. Побач сядзіць яе ўхажор, Алёшка Яроцкі. Там жа ляжыць рабочы з чыгункі, Косця Карповіч. Зводдаль апіраецца на веласіпед Міцька Карповіч. У гушчары яшчэ недзе на варце мой школьны таварыш Сашка Кардаш. Пакуль што — гэта ўся наша партызанская група, якая афіцыйна так гучна называецца: атрад імя Кастуся Каліноўскага.**

**— Алёшка, глядзі! — паказвае Міцька на пакунак. — Падарунак асабіста табе ад Марусі.**

**— І тут падарунак? — дзіўлюся. — Ты паспеў злётаць ужо ў Беласток?**

**— Вярнуўся раніцой з Дубава, сеў на паўстанку ў пасажырскі і павёз адкрыткі Любы і Яроцкага. Паўднёвым вярнуўся.**

**Чаму таямнічая Маруся не перадала праз Міцьку адразу дзве пасылкі, а пераслала іх рознымі спосабамі? Мо падумала, калі трапіць немцам у лапы адна, дойдзе другая...**

**— Адкуль у цябе такі партфель? — дзівіцца Косця. — Няйнакш у нямецкага міністра спёр!**

**— Акурат адгадаў, паглядзі! — шпурляю партфель на мох, а сам нагінаюся над Міцькавым пакункам, разрываю паперу.**

**Божа мілы, там навюткае адзенне лейтэнанта нямецкай пяхоты! Яшчэ адгэтуль Вайцяхоўскі заказаў для мяне**

**Аляксей Карпюк**

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**нямецкую вопратку, і вось, трымай! У прыдачу яшчэ і цэйсаўскі бінокль. Навошта патрэбен нам у лесе бінокль? Партызанская рамантыка: калі б мог, то нават танк на сябе начапіў бы!.. Прыкладаю нагавіцы, мундзір — акурат! І боты майго, сорак трэцяга, памеру.**

**— Не Маруся, а — золата!**

**— Ты думаў, што маню, калі расхвальваў! — кажа шчаслівы Міцька.**

**Выходжу з кустоў пераапранутым.**

**— Ну і не-емец! — ахаюць сябры.**

**— Давай, пашваргачы нам!**

**Выпальваю так, як лаяўся ў Штутгофе рапартфюрэр Арно Хэмніц. Сябры кладуцца ад смеху. Люба аж прысядае. З кустоў высоўваецца Кардаш суцішаць нас; гыркаю на Сашку, смяецца і вартавы.**

**— Ладна, Сашка, больш не будзем! — пру яго назад у лес.**

**— Слухай, а што гэта? — Косця паказвае чарцяжы. — Мы такія грамацеі, што ні шыша не зразумелі.**

**Расказваю. У хлопцаў выцягваюцца твары. Косця па сваёй звычцы чмыхае ад хвалявання носам, быццам туды трапіла смяцінка, кідае:**

**— Дзяўчына — экстра кляса!**

**Сапраўды, яна — нейкі волат, а не чалавек. Пад сасной стаіць пузатая сумка з чырвоным крыжам, — якіх толькі лякарстваў не напіхала Люба туды; яшчэ больш іх схавана пра запас у зямлянцы разам з пачкамі паперы для газеты, рэдакцыя якой быццам бы ў нас паўстане: усё прыслала Маруся. Косця з Кардашом так проста ў лес пайсці не маглі, разыгралі спектакль. Знаёмыя праводзілі іх да Валіл, паднеслі чамаданы і торбы з ежай, пасадзілі ў поезд. У Беластоку Сашка з Косцем панапісвалі ў адкрытках нібы яны ў Кенігсбергу зарабляюць добрыя грошы на заводзе, аддалі Марусі, а самі адправіліся назад. Ночу на паўстанку злезлі і — да мяне ў Ліпнікі! Косцева жонка і Сашкава маці атрымліваюць цяпер па пошце з кенігсбергскай пячаткай адкрыткі, абносяць па суседзях, выхваляюцца, як іхнія мужчыны добра ўладкаваліся ў Германіі. Легкадумна сабраліся і пайшлі сабе ў лес Алёшка з Любай. Але ўчора мы іх прымусілі напісаць адкрыткі.**

**— Дык што цяпер будзем рабіць, хлопцы? — пытаюся заклапочаны. — Чарцяжы трэба ж адправіць у брыгаду, іх у Маскве чакаюць!**

**— Ты камандзір, ты і думай, нам што?**

**— Не адзін я. Вы таксама камандзір, нават яшчэ камісар.**

**На самай справе, які з мяне камісар? Або Міцька — начальнік штаба? Косця лічыўся камісарам атрада. Які гэта камісар? Мы жывём па-суседству. Як памятаю, Косця ходзіць у рамонтную брыгаду на чыгунку, забірае кастылі, мяняе шпалы, поле броўку. Цаклядзісты характарам, цярплівы, ён умудрыўся нават пры Польшчы Пілсудскага ўтрымацца на пуці гадоў дзесяць. Яшчэ ён умее добра вастрыць сякеру, разводзіць пілу. Вельмі любіць чытаць**

# З бельскіх старон весць нясе ПЦК

66 вучняў з Беларускага ліцэя ў Бельску закончыла санітарны курс III ступені. Ацэнкі — некалькі добрых, рэшта выдатныя. Навучыліся як даваць першую дапамогу ў няшчасных выпадках.

*

Санітарна - медыцынскі аддзел самаабароны добра працуе ў Свірыдах Паўстаў тут ён пад кіраўніцтвам Язэпа Нявінскага — кіраўніка школы, аб якім слава ходзіць, што ўпарты на пункце навучання розных ведаў. У аддзеле вучыцца 7 дзяўчат са Свірыд, якім з гэтага месца брава.

*

У Бельскім павеце працуе 16 вывучаных перадавікоў здароўя (пшадаўніцы здароўя). Рассеяны яны па вёсках, а ў сваіх санітарных торбах маюць усе найбольш патрэбныя на штодзень лекі. Не пра ўсіх 16 голасна гавораць, але Анна Вышкоўская з Вышак, ці Оля Нікалаюк з Крывой ужо вядомыя. Оля, штопраўда, нядаўна выйшла замуж у Орлю і змяніла прозвішча, але слава яе дзявочага прозвішча жыве.

*

Справа санітарных торбаў для дзяўчат, у родзе Олі, заслугоўвае на асобныя пару слоў. Кожная дзяўчына, прайшоўшы навуку ў прыгожым Цехацінку, на пачатак атрымлівае торбу з лекамі ад ПЦК. Але лекі выходзяць і адкуль узяць новыя? ПЦК больш даць не можа. Застаюцца тут добрымі памочнікамі ГРН-ы. Не ўсе. Але Пілікі далі як найлепшы прыклад. У свой бюджэт увялі лекі для санітарных торбаў. (вл)

## ТАРАШКЕВІЧ ВА ЎСПАМІНАХ

# „ТАРАС"

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Браніслаў Тарашкевіч упершыню завітаў у родныя аколіцы ў канцы 1918 года. Змучаны, у гразі і пылу прыйшоў ён пехатою не ў родную вёску, але ў адлеглую ад Чарнулішкаў 25 кіламетраў невялікую вёсачку Вясёлую, дзе жыў яго дваюрадны брат а адначасова хросны сын Пётр Ганцэўскі.

Браніслаў Тарашкевіч любіў свайго дваюраднага брата і хроснага сына. Быў ён адзінай у радні асобай, якая пайшла ў сляды Браніслава: пачаў вучыцца ў Віленскай гімназіі. Тарашкевіч любіў гутарыць з малодшым ад яго на 16 гадоў юнаком, Пятром Ганцэўскім, на палітычныя тэмы.

Зараз Пётр Ганцэўскі з жонкаю і дзяцьмі жыве ў мясцовасці Кайкова каля Аструды ў Альштынскім ваяводстве, працуе ў мясцовым ГС-е і ахвотна расказвае аб сваіх сустрэчах з Тарашкевічам.

Нядоўга, аднак, загрэў месца ў вёсцы Браніслаў Тарашкевіч. Вяртаецца ён у Вільню, дзе дзейнічае ў т. зв. Беларускай радзе Віленшчыны і Гродзеншчыны. У 1922 годзе Тарашкевіч быў выбраны паслом у сейм са спіску кандыдатаў нацыянальных меншасцей. З гэтага ж спіску выбраны быў і ксёндз з Вільні, Адам Станкевіч, з якім Тарашкевіч пачаткова сябраваў. Сябрам Станкевіча быў іншы ксёндз беларус — Ян Семашкевіч з парафіі Ловарышкі, да якой належалі Чарнулішкі. Ксёндз Семашкевіч прабаваў нават «казаня» ў касцёле гаварыць па-беларуску.

Пачаткова ксёндз любіў заходзіць да Браніслава Тарашкевіча, калі той прыязджаў у вёску. У памяці Геранімa Янкоўскага захавалася адна з такіх сустрэч, якая адбылася ў яго хаце. Калі прысутныя падвыпілі, Тарашкевіч пазіруючы ігру на скрыпцы і штурхаючы ксяндза локцем, пачаў прыпяваць:

**Ой, каб ксёндз жонку меў,**
**Ані піў бы, ані еў,**
**Ані еў бы, ані спаў бы,**
**Толькі жонку цалаваў бы.**

Не менш, аднак, ад паланізацыі беларускай вёскі ксёндз Семашкевіч не любіў усякай рэвалюцыі. І таму, калі дзейнасць Браніслава Тарашкевіча пачала радыкалізавацца, ксёндз пачаў заходзіць да яго бацькі Адама Тарашкевіча і праводзіць з ім такія больш-менш гутаркі:

— Твой Бронцё пачаў рабіць нейкую рэвалюцыю ў сейме, каб ты ведаў, што ён там цяпер чаўпе. Ты накрычы на яго, калі прыедзе, каб перастаў.

— Добра, накрычу, — адказваў бацька.

Калі Браніслаў прыязджаў дахаты, бацька пытаў яго:

— Што гэта ты робіш, якуюсьці рэвалюцыю, ксёндз казаў. Ты перастань.

— Якую там, бацька, рэвалюцыю, — адказваў Браніслаў. — Я толькі хачу, каб была на свеце справядлівасць. Навошта вось, для прыкладу, прысылаюць нам войтаў аж з Познані, ці ж у нас няма сваіх людзей добрых? Або паліцыянтаў? А навошта такую армію ўтрымліваць, падаткі на яе плаціць? Няхай дадуць людзям свабоду, тады і армія непатрэбнай стане.

— Дык можа і добра ты робіш, хто цябе ведае, — адказваў няўпэўнена бацька.



**Вера Андрэеўна — жонка Тарашкевіча — з сынам Радаславам (загінуў у партызанскім руху).**

У 1923 годзе ў сям'і Тарашкевічаў адбылося 2 веселлі: выйшла замуж сястра Тэкля і ажаніўся сам Браніслаў Тарашкевіч. Жонкай Тарашкевіча сталася Вера Андрэеўна Шнітко, жанчына прыгожая і багатая, дачка ўласніка Радашковіч, тых самых Радашковіч, паблізу якіх нарадзіўся вялікі беларускі паэт Янка Купала.

— Мяжа, штопраўда, перасякала маёмасць Радашковіч, застаўляючы частку пры Савецкім Саюзе, але і так пры ўласніках маёмасці было вялікае багацце. У аколіцы хадзілі нават слухі, што ўласнікі Радашковіч былі сваякамі дома Раманавых. Так ці інакш у міжваенныя часы лічылі яны сябе беларусамі і цешыліся сярод мясцовага сялянства шырокай папулярнасцю. Сведчыць аб тым можа хаця б той факт, што маці Веры — жонкі Тарашкевіча — мела сярод мясцовых сялян звыш 70 хросных дзяцей.

Потым, калі Тарашкевіч знаходзіўся ўжо за мурамі санацыйнай турмы, яго цешча гаварыла:

— Калі Тарас (так называлі Тарашкевіча) вернецца з турмы, пабудуем яму новую дачу і не пусцім ужо нікуды, нікуды.

Дача такая была праўдападобна нават пабудавана, не змагла яна аднак адгарадзіць рэвалюцыянера ад яго дзейнасці.

Шлюб Тарашкевіча з Верай Андрэеўнай даваў успамянуты ксёндз Адам Станкевіч у касцёле св. Мікалая ў Вільні. На вяселле сабраўся шырокі круг беларускага палітычна - літаратурнага асяроддзя. Складаліся пажаданні, дэкламаваліся вершы, чыталіся літаратурныя творы. На вяселлі быў і наш знаёмы Пётр Ганцэўскі.

Нягледзячы на матэрыяльны дастатак Браніслаў Тарашкевіч заставаўся быць чалавекам сціплым. Памяшканне яго ў Вільні было скромна абсталявана, у цягніку браў заўсёды купэ 2 класа, не карыстаўся ніколі дрожкамі, а прыехаўшы да бацькі найбольш любіў прасядзець усю ноч з парабкамі, гуляючы ў карты і гутарачы аб іх справах.

Апошні раз Пётр Ганцэўскі бачыў Тарашкевіча на судзе ў Вільні. На пытанне аб месца жыхарства Тарашкевіч адказаў іранічна: турма, а на пытанне аб веравызнанні заявіў горда: няверуючы.

**Ул. ПАУЛЮЧУК**



**Пётр Ганцэўскі, дваюрадны брат Браніслава Тарашкевіча.**

**кніжкі, за што яму даставалася ад успыльчывай і вострай на язык жонкі Гандзі. Толькі якое дачыненне ўсё гэта мае да яго пасады?**

**З нас траіх ніхто не служыў у арміі.**

**Сябрам маім крыху лягчэй. Яны вераць, што я ўсё ведаю, бо знаходзіўся ў дэсантнікаў, прыбыў з таямнічай Гуты. На маё шчасце, сябры саромеюцца мяне пытацца пра свае абавязкі: каму прыемна паказацца невукам? Хлопцы называюць нас проста па імёнах. Толькі да Косці звяртаемся мы праз «вы», ён можа быць кожнаму з нас бацькам.**

**— А калі адкінуць смешачкі, то і праўда трэба штосьці прыдумаць, — паважнее камісар, абхоплівае рукамі калені, глядзіць у вогнішча.**

**— Трэба параіцца з камбрыгам!**

**— Вайцяхоўскі цяпер ля Зялёнай, у леснічоўцы, — падказвае Міцька. Ён у гэтым фенамен, ведае і памятае ўсё.**

**— Ля каторай Зялёнай, што пад Беластокам? — загараецца Люба. — Я там лес садзіла з дзяўчатамі, пашліце мяне!**

**З-за такіх дакументаў станеш аб'ектам захаплення, кожнаму хочацца пахваліцца. Прыкідваюся, што не чую яе просьбы, абыякава кажу:**

**— Вечарам на паўстанку сяду ў пасажырку, праз гадзіну даеду да Кур'ян, а там і тая вёска блізка. Толькі апішы, дзе шукаць леснічоўку.**

**— Пачакай! — упікае Косця. — Мы ж з табой заўтра адпраўляемся ў Скраблядкі лес да Беластоцкіх людзей. Пад Зялёную няхай махне Міцька на ровары. Колькі туды?**

**— Глу-упства! — радуецца начштаба. — Па асфальту кіламетраў з трыццаць. Ды лесам з пяць... Гадзіны на дзве дарогі. Зараз і адпраўлюся, толькі заскочу ў Грыбаўцы, а то бацькі суткі мяне не бачылі, падумаюць невядома што...**

**— А нам чым займацца заўтра? — пытаецца ў мяне Люба. Яна разапрэла ад пары з вядра, жмурыць вочы ад дыму.**

**— Яна — адзіны чалавек, які ні на секунду не забывае, хто тут камандзірам. Люба нават ганарыцца гэтым, і калі нешта трэба, звяртаецца толькі да мяне.**

**— Няма чаго валачыся туды ўсім, — буркаю. — Хопіць нам аднаго Сашкі з кулямётам. Пабудзеш з Алёшкам у лагеры.**

**— Ану яго, усё сядзі ды сядзі, абрыдла!**

**— Сама прыбегла, ніхто цябе сюды не запрашаў!**

**— Прыбегла, бо думала, што тут паязды ўзрываеш, немцаў б'еш, цікавае нешта робіш... Гатаваць страву і дома магла б!**

**Ад Любінай шчырасці робіцца сорамна і неспакойна. На самай справе, трэба ж кіраваць людзьмі, даваць нейкую работу, гэты абавязак не чый-небудзь, а мой...**

**— Хіба дома мела б такі поспех? — устаўляе камісар. — Учора з Дубава прыходзіў Колька Навасёлаў. Нябось, бачыў, якімі вачыма на цябе зыркаў!**

**— Выдумля-аеце нешта, дзядзя Косця, ха-ха-ха-ха! — рагоча здаволеная Люба і падтыкае мезенцам пад цёплую хустку непаслухмянае пасма.**

**— Патрэбна мне выдумляць! Мо не праўда? Ды ніхто не супроць. Толькі б ты выкарыстала гэта. Падлабунься да Колькі, дастань нам толу кілаграмаў шэсць, будзе табе і поезд узарваны!**

**Люба перастае мяшаць вугалле. Забыты ў вогнішчы кій загараецца, дзяўчына не бачыць, нешта мяркуе.**

**— Але я-ак? Навучы-ыце!**

**— Будзь я на тваім месцы, то ўжо прыдумаў бы. Гэтага Навасёлава павадзіў бы за нос, як міленькага, выдраў бы, што трэба!**

**— А чорт яго бяры, паспрабую! — узбуджана і рашуча ўдарае яна кіем па вядры, свавольна смяецца.**

**— Што скажа на гэта Яроцкі? — жартуе Міцька.**

**Чорны, як цыган, хлопец, падабраўшы пад сябе ногі, дагэтуль сядзеў моўчкі, цяпер разгублена ўсміхаецца. Твар яго сцягвае нейкая нервовая грымаса.**

**— Што, што, — крывіць камісар. — Тое, што ў свой час казаў я, калі заляцаўся хто-небудзь да маёй: значыць, ладная баба, не памыліўся ў выбары!**

**— Алёшка, — успамінаю я, — а ты адпраўляйся ў Вераб'і. Врублеўскі наказваў, што ведае, дзе валяюцца снарады. Назбірай, вазьмі фурманку і прывязі.**

**— Магу! — з перабольшанай гатоўнасцю ўсхопліваецца хлопец.**

**— Ну, вось, на цэлыя суткі знайшлася ўсім работа, — уздыхае Міцька, ставіць нагу на педаль. — Мне пара, хлопцы!**

**— Пачакай! — стрымліваю. — Ты быў у Дубаве. Як там нашы хроснікі пабываюць? Камандзір атрада не намерваецца адбіраць ад нас вінтоўкі?**

**— Дзе ты бачыў! Ён гатовы нават даплаціць табе! Тры цёпленькія шпіёны трапілі самі ў рукі, гэта ж скарб для нашай контрразведкі!**

**— Шчэ і ордэн за іх атрымае Філімончык! — заўважае Косця.**

**— Ордэн адбіраць не станем, а кулямёт у дадатак запатрабуем, — кажу нібы абыякава, а ў самога на душы скрабе: чаму не выкрылі іх мы?**

**(Працяг будзе)**

